

# ДЭМАРЫ

ДЭМАКРАТЫЧНАЯ АРШАНШЧЫНА

№ 3 (3) верасень 2000 Распаўсюджваецца бясплатна

*Выданне дэмакратычных сілаў Аршанскага рэгіёну*

## Не чакалі

Ураган, які абрынуўся на Оршу і раён 22 жніўня, стаў поўнай нечаканасцю для ўсіх. Паводле прыблізных вызначэнняў, страты ад стыхіі ацэньваюцца ў лічбу каля 100 мільёнаў рублёў, ёсць нават адна ахвяра.

Падобна на тое, што для ўлады здарэнне стала поўнай нечаканасцю. Ва ўсялякім разе дзеянні створанай камісіі па ліквідацыі наступстваў паказалі адсутнасць грашовых рэзерваў на падобныя выпадкі ў гарадскім бюджэце. На фінансаванне брыгад, што расчышчалі горад ад завалаў дрэў і абарваных правадоў ліній электраперадач, у горада грошай не знайшлося, усё звалілі на плечы прадпрыемстваў, якія ў асноўным і фінансавалі іхную работу. Вось тут бы і паказаў сваю жвавасць злосны пілоўшчык дрэў МП "Орион"

Большасць пацярпелых жыхароў Оршы таксама дарэмна шукалі рады ў гарвыканкаме; адказ для іх быў адзін – грошай на рамонт дахаў у выканкаме няма. І пасылалі іх у "Белдзяржстрах". Для апошняга, канешне, лепшай рэкламы для сваіх паслуг цяжка прыдумаць, але многія аршанцы усё ж не карысталіся прывабнымі паслугамі страхавання, а таму асталіся з рамонтам раскрытых дахаў сам на сам. Па самых сціплых падліках на рамонт жылога сектару Оршы спатрэбілася 10 вагонаў шыферу і 3 вагоны рубероіду.

*Карусь Дасціпны*

## D/A Справы судовыя

### Рашэнне пакінуць у сіле

Днямі Віцебскі абласны суд разгледзіў касацыйную скаргу газеты "Віцебскі рабочы" на рашэнне Аршанскага райсуда. Нагадаем чытачам, што у вышэйназваным выданні некалькімі месяцамі раней былі змешчаны матэрыялы, што абражалі гонар і годнасць Старшыні Аршанскага аддзялення Беларускага Хельсінскага камітэта Васіля Бераснева. Васіль Ціханавіч вырашыў не маўчаць і падаў у суд на газету і аўтара артыкула – старшыню Аршанскага райсавета ветэранаў Жолудзева, які і раней вызначаўся сваімі нападкамі на актывістаў дэмакратычнага руху Аршаншчыны. На судзе Жолудзеў і прадстаўнік "Віцебскага рабочага" карэспандэнт Каралёў усімі сіламі імкнуліся даказаць, што чорнае гэта белае, а белае гэта чорнае. Аднак таварышам камуністам не пашанціла. Нягледзячы на ўвесь пафас прамоваў, Аршанскі раённы, а следам і Віцебскі абласны суды не змаглі іх ацаніць. У выніку "Віцебскі рабочы" і Жолудзеў абавязаны прынесці прабачэнні Берасневу, а таксама выплаціць пэўныя сумы па кампенсацыі маральнага ўрону.

*А.Шутаў*



*За гэтымі вокнамі ў камунізм не вераць* фота А. Шыраева



фота А. Шыраева

*ВЕРНОЙ ДОРОГОЙ ИДЕТЕ, ТОВАРИЩИ!*

!

## Добра, што скончылася лета...

А то і пакупацца беднаму аршанцу няма дзе. Сваёй пастановай ад 14 жніўня гарадскі цэнтр санітарыі й эпідэміялогіі забараніў адпачываць на знаёмым для многіх жыхароў горада на Дняпры мястэчку – возеры Шчацінка на месцы былой аднайменнай рэчкі. Надоечы санітарнай праверкай у пяску пляжа і вадзе гэтага вадаёма былі знойдзены яйкі глістоў. Залішне нагадваць, што ва ўсе аршанскія рэчкі – Дняпро, Аршыцу і Адроў – совацца даўно не рэкамендуецца, так што застаюцца цяпер толькі розныя дробныя саджалкі ды лясныя азёры.

*Алесь Аршычны*

## D/A Падтасоўка месяца

### А лічбы, аказваецца, дутыя!

Гэта высветлілася пасля абнародвання вынікаў работы Камітэта дзяржкантроля па Віцебскай вобласці за 6 месяцаў сёлета. Згодна статыстыкі аршанскага гарвыканкама, зваротаў грамадзян са скаргамі у органы дзяржулады стала значна менш. А вось паводле дадзеных абласнога Камітэту дзяржкантроля наглядна адзначаецца павелічэнне паступлення на 4% пісьмовых скаргаў якраз з Оршы. Калі верыць статыстыцы аршанскага гарвыканкама, скаргаў на ВА ЖКГ Оршы паменшала на 33%. А вось паводле дадзеных абласнога дзяржкантролю ўсё якраз наадварот – павелічэнне скаргаў аршанцаў на работу ВА ЖКГ з 22% у першым паўгоддзі летась да 41% сёлета.

*Алесь Аршычны*

## D/A Выбары

### Чыноўнікі шчыльным касяком зноў рушылі ў дэпутаты

Завяршаецца вылучэнне кандыдатаў і ўсе звязаныя з гэтым фармальнасці на запланаваныя на кастрычнік выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

На канец жніўня з вылучэннем кандыдатаў сітуацыя выглядае наступным чынам. Па Аршанскай гарадской выбарчай акрузе N26 вылучана аж но 12 кандыдатаў у дэпутаты. Сярод іх 4 педагога, 3 чыноўнікі-адміністратары, 1 беспрацоўны (зноў жа з вялікім наменклатурна-чынавенскім стажам), 1 прадпрымальнік, 1 чалец Саюза журналістаў Беларусі, 1 медык і 1 высокі чыноўнік спартовага кшталту – старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэту, былы рэкардсмен-канькабежац Ігар Жалязоўскі. А вось па Аршанскай-Дняпроўскай выбарчай акрузе N27 вылучана пакуль толькі 8 кандыдатаў. Тут расклад такі: 5 чыноўнікаў-адміністратараў, 1 педагог, 1 інжынерна-тэхнічны работнік і 1 прадпрымальнік. Па Талачынскай выбарчай акрузе N31, да каторай чамусці належыць шэраг населеных пунктаў на захадзе Аршаншчыны, вылучаны пакуль толькі 1 кандыдат – дэпутат цяперашняга Нацсходу Азарчанкаў, у мінулым аграпрамысловы функцыянер.

Зразумела, асобая ўвага "вертыкалі" найперш звернута на вылучэнцаў ад палітычных партый, якіх так вострa не хапае для прыдання легітымнасці будучаму парламенту. У гэтым плане мала радасці, хаця сёе-тое ёсць. Па Аршанскай N26 ад Партыі камуністаў Беларускай вылучаны інжынер-тэхнолаг Мікалай Дзямідаў, а ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці (ёсць і такая) вылучаны той самы канькабежац Ігар Жалязоўскі. Астатнія палітычныя партыі й рухі Аршаншчыны, згодна з рашэннем III Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі, байкатуюць гэтае мерапрыемства, называючы яго палітычным фарсам пад назвай "Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі".

*Юрка Аршанскі*



## Наш каляндар

28 жніўня (9 верасня) 1863г. паводле прысуду ваеннага суда быў расстраляны актыўны ўдзельнік паўстання 1863 года на Беларусі Ігнат Будзіловіч. Служыў ён падпаручыкам у лейб-грэнадзёрскім Кацярынінскім палку ў Маскве. Належыў да паўстанскай арганізацыі. У красавіку 1863 уцёк з часці і з Л.Звяждоўскім, паплечнікам Каліноўскага, выехаў на Магілёўшчыну. Арганізаваў паўстанцкі атрад у Аршанскім павеце, які быў разбіты пад Пагосцішчамі. Будзіловіч быў схоплены на полі бою. Было яму 22 гады.

### *Аршанскі рэквіем*

*прысвячаецца Ігнату Будзіловічу*

Жыцця агеньчык свецідь цьмяны,
Атрад, разбіты войскам ушчэнт
У ціхай Оршы расстраляны
Гнат Будзіловіч, інсургент.

Век дзевятнаццаты расьпяты,
Ты, Беларусь, на тым крыжы.
Збуцьвелыя чарнеюць хаты,
Гараць паўсюдна мяцяжы.

У змаганні сэрца за свабоду
Аддаў, яго ахвяраваў.
Хацеў дабра свайму народу –
На эшафот пакуты ўстаў.

Яшчэ плывуць па небу хмары,
Рык навальніцы быццам звер.
Тваe не спраўдзіліся мары,
Дык, можа, збудуцца цяпер?-

Аддаць жыццё? Якая сіла
У бой рашуча павяла?
Душа Айчыну так любіла,
Што смерць сваю перамагла!

Жыцця агеньчык свеціць цьмяны,
Атрад разбіты войскам ушчэнт
У ціхай Оршы расстраляны
Гнат Будзіловіч, інсургент.

*Уладзімір Бандарэнка, 1998.*

ДЭМАРШ  № 3 (3) верасень 2000 2



# БАРАНСКАЯ СТАРОНКА

**Выпуск прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння нашага земляка, таленавітага беларускага паэта і байкапісца Уладзіміра Корбана**

## Дарога, якую прайшоў

*Заўжды ў паходзе з творчым гартам,*
*Сатыры дзеяч баявы,*
*Збіральнік чутных мудрых жартаў*
*І іх нястомны сейбіт Вы*

С. Алейнік

Нашаму славутаму земляку споўнілася 90. Не забыся пра гэта "Витебский курьер". У рубрыцы "Даты тыдня" паміж памятных дат развода ледзі Дыяны Спэнсэр і юбілея Георгія Данелія, "аўтара пэдэўраў айчыннага (?!) кінамастацтва" згубіліся тры радкі: "25 жніўня 1910 ў Оршы нарадзіўся Віктар Корбан, беларускі паэт-баснапісец і сатырык, заслужаны дзеяч культуры БССР. Памёр у 1971г." І ўсё. Відаць, журналістам абласной газеты не было часу зазірнуць у энцыклапедыю, інакш не памыліліся з іменем і месцам нараджэння пісьменніка.

А як шануюць на Аршаншчыне? Пройдзе свята вуліцы Корбана ў Барані, будзе прысвоена яго імя школе N 15, адкрыюць мемарыяльную шыльду з барэльефам пісьменніка, будзе конкурс баек, святочная вечарына і шмат чаго іншага. На вялікі жаль на ўсе гэтыя мерапрыемствы няма грошай, бо Аршанскі аддзел культуры не ўключыў гэтае мерапрыемства ў свае планы

Уладзімір Корбан нарадзіўся ў сям'і рабочага Баранскага дротава – цвікавага завода Івана Данілавіча Корбана. Яго бацька працаваў слесарам-машыністам, быў удзельнікам рэвалюцыйнага руху, у 1900-я гады хаваў у сваім доме пячатку і сцяг сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. На гэты ж завод пайшоў працаваць яшчэ падлеткам і сын Уладзімір, будучы адначасова вучнем вучням вячэрняй школы.



Набыўшы прафесію токара, папрацаваў 2 гады ў Ленінградзе на заводзе, а затым зноў вярнуўся ў родныя мясціны. Прайшоў цяжкімі дарогамі вайны з 1941 па 1945 год. Пасля вайны працаваў на розных адміністрацыйных пасадах. З 1948 г. на заводзе "Чырвоны кастрычнік" у Барані, дзе ўпершыню ў Беларусі ствараласяя вытворчасць бытавых швейных машын, так неабходных людзям у нялёгкі пасляваенны час. Завод будаваўся, працы было шмат, аднак у рэдкі свабодны час Уладзімір піша вершы і фельетоны. Ягоныя першыя байкі, апавяданні публікуюцца ў часопісе "Вожык", газеце "Ленінскі прызыў". Там жа ён сабраў гурток маладых паэтаў, з творамі якіх у 1949 годзе выйшла першая ў газеце "Літаратурная старонка". Ягоны талент заўважылі і запрасілі ў Мінск, куды ён і пераехаў у 1952 годзе. Працаваў у гумарыстычным часопісе "Вожык" да канца жыцця. Аўтар 20 кніг баек, вершаў, апавяданняў, у тым ліку некалькіх дзіцячых.

Вырас Уладзімір у своеасаблівай атмасферы маленькага рабочага мястэчка. Добра ведаў людзей, якія тут жылі. Тут атрымліваў свае першыя ўрокі жыцця, тут развіваў свой талент, пісаўшы для пастановак у завадскім клубе, тут ягоную творчасць падтрымлівалі добрымі парадамі школьныя настаўнікі. Пра сваю малую радзіму, пра яе людзей ён не раз успамінаў у сваіх творах. Калі прыязджаў у Барань, любіў хадзіць на рыбалку, сустрэцца са старымі знаёмымі, мог пасядзець за пляшкай. "Дзядзька Корбан",- як успамінаюць людзі, што яго ведалі: "Высокі, агромны, добры расказчык і слухач". Ён прыцягваў да сябе людзей, любіў жартаваць, расказваць анекдоты. Калі чуў штонебудзь цікавае для сябе, абавязкова запісваў у нататнік. Любіў футбол, яшчэ маладым гуляў у баранскай футбольнай камандзе.

Уладзімір Корбан пакінуў нам багатую творчую спадчыну. Асабліва вядомымі і папулярнымі былі ягоныя байкі. У іх паэт высмейваў бюракратаў, падхалімаў, чалавечыя парокі: нахабства, угодлівасць, зайздрасць. У аснову многіх ягоных баек пакладзены рэальныя жыццёвыя факты.

*К.Шанскі*

## "Голас у дзядзькі быў басавіты..."

У нашым горадзе ёсць людзі, якія ведалі пісьменіка асабіста. Сярод іх-яго пляменнік Пётр Корбан. На пачатку вучобы з паўгода, пакуль не далі месца ў інстытуцкім інтэрнаце жыў у сям'і, як ён кажа, дзядзькі Валодзі, бываў у ёй мноства разоў у астатні час свайго студэнцтва, да дробязей ведае побыт Уладзіміра Іванавіча і праявы яго творчага характару.

Цяпер Пётр Андрэевіч Корбан жыве ў Барані. Некаторы час таму ён падзяліўся сваімі ўспамінамі пра дзядзьку, якія запісаў Мікалай Маркевіч.

Ён ахвотна расказаў пра ўсё, аб чым распытвалі. Усяго, канешне, не перакажаш, таму давядзецца абысціся кароткімі штрыхамі. Вось што сказаў П.А.Корбан:

-У дзядзькі голас быў басавіты, раскацісты, смех—з хрыпласцю. Вясёлы такі мужык быў. Здаравяка высокі. Яго маці і дзед былі па 2 метры росту. Пісаў ён у асноўным ноччу. Курыў адну цыгарэту за другой. Попельніцы ў яго стаялі ва ўсіх пакоях, на кухні, у ваннай. Спраў у яго было шмат, бо доўгі час дзядзька працаваў галоўным рэдактарам "Вожыка". Жыў я тады ў студэнцкім інтэрнаце, прыходжу неяк да дзядзькі Валодзі, ён кажа: "Во, Пятро, цэлы дзень пакутваю. Тут матэрыял на аднаго міністра паступіў і трэба трохі яго "укусіць", дык каб моцна не пакрыўдзіўся". Прыходжу ў другі раз, кажа: "Во, напісаў". Псеўданім у яго быў Ян Бараньскі, прозу падпісваў ім. Слова ён адчуваў, часта казаў: "От каб мне адукацыю". У яго слоўнікаў было шмат, рэдкіх і цікавых, карысных для працы кніг. Я нават сам яму іх прывозіў.

Любіў запісваць дзіўнаватыя выказванні. У яго было шмат запісных кніжак. Выразаў усялякія малюнкі. Стараўся ведаць усё дасканала. І пачынаючых пісьменнікаў так вучыў. Прыносіць хтосьці рукапіс, там напісана, што раз'юшаны бык грызе бераг ракі клыкамі. Ён вязе аўтара ў калгас. "Во, паглядзі, ці ёсць у быка клыкі!" Другі піша, што сабака бег за лісой, і пот капаў з яго градам. Корбан аўтара з добрай усмешкай пераконвае, што сабакі не пацеюць.

Чалавекам ён быў вельмі сціплым. Яму патрэбен быў шыфер на дах дачнага доміка. Нідзе дастаць не можа. Здаецца, карыстаючыся сваім імём і становішчам, мог бы зрабіць гэта элементарна проста. Не, тэлефануе майму бацьку: "Андрэй, прыедзь!" Дае яму грошы, просіць: " Купіш мне шыфер і прывязеш. Я не магу нідзе дастаць".

У рэдакцыі "Вожыка" мэбля ў яго была старая, дываны пратаптаныя. Казаў, што гэта для яго нармальна.

Ці гатаваў штосьці сам? Яешню са шкваркамі, каву. У ежы быў не надта пераборлівы.

У футбол добра гуляў юнаком. Быў шчырым балельшчыкам у многіх відах спорту. Быў і заядлым рыбаком. Здавалася, прыедзе ў Барань, кажа: "Так, пляменнік, мне чарвякоў накапаць". Літровы слоік накапаем, ён бярэ пяць вудачак, вядро і пайшоў. Гадзін у дзевяць раніцы ўжо прыходзь – вядро рыбы з Адроўкі.

Пажыў толькі дзядзька мала. Памёр у 1971 годзе, адразу пасля таго, як пайшоў на пенсію – у 60 з невялікім гадоў: замучылі яго цукровы дыябет і іншыя хваробы

*Падрыхтавала Т. Гуляева*

*Уладзімір Корбан*

## ІЗАБЕЛА

Кастыльскай Ізабеле давялося
Іспанскай каралевай стаць.
Якое шчасце чалавецтву даць,
На троне седзячы, манархіні ўдалося –
Гісторыя зафіксаваць
Не ўспела.
Ды ўсё ж сумела
У свеце славу каралева атрымаць
І соль усю ў прызнанні.
Аднойчы раніцой, пры апрананні
(А каралеву разглядаць,
Калі сарочку ёй змянялі, -
Такія звычкі існавалі.
І многа іншых хлюст за гэта мог бы даць.
Але не ўсіх у спальню дапускалі.
Туды магла праваццца толькі знаць.)
Вяльможам і сказала Ізабела:
"Мне толькі двойчы цела
Даводзілася мыць.
Упершыню — як нарадзіла мама,
А потым мылася таксама,
Калі прыйшла пара мне замуж выхадзіць".
Так і праславілася дама
На доўгія вякі.
Факт гістарычны быў такі...

Прызнацца,
Таких палітыкаў не цяжка адшукаць,
Што ў брудзе з галавой усё жыццё сядзяць
Ды тым яшчэ і ганарацца.

## С верой в будущее?

Директор фирмы «Лёс» Павел Тихонов выступил с радиообращением перед коллективом и ответил на вопросы работников фирмы, которая, как известно находится в сложном финансово-экономическом положении.

Обстоятельно рассказав об открытом на предприятии Расчетно-кассовом центре, директор ответил на вопросы , касающиеся перспектив фирмы. Выдержки из сказанного предлагаем вашему вниманию.

- Многое зависит от того, как слаженно мы будем работать на общий результат. Для этих целей намечен целый ряд мер
- Во всяком случае я вижу, каким путем надо идти и решаю вопросы, которые необходимо. Будущее и перспективу я вижу. Но одно условие необходимо – необходимо всем работать на результат, беспокоиться о том, куда идет каждая копейка, как скоро она даст отдачу
- С целью освоения новых изделий и товаров народного потребления объявлен конкурс по предприятию, по которому каждый работник может вынести свои предложения по освоению нового И если в результате конкурса мы найдем несколько изделий, которые будут пользоваться широким спросом , в этом случае эта техника найдет свое место в номенклатуре изделий фирмы
- От нас требуется обеспечить качество, обеспечить те сервисные услуги, которые имеют аналогичные западные станции Если мы будем показывать хорошие результаты, то наши изделия будут входить на новые рынки..
- Мы не отработали технологию, которая позволила бы сделать наши телефонные аппараты надежными
- Я должен констатировать тот факт, что у нас нет отделов товаров народного потребления. Надо возобновлять это направление

## А у рабочих оптимизма мало

Фирма «Лёс» с прошлого года не перечисляет деньги на счета профсоюзов работников предприятия: отраслевого профсоюза работников Министерства связи и Свободного профсоюза Белорусского (СПБ). С каждым месяцем сумма задолженности возрастает, и в настоящий момент перед СПБ составляет около 300 тысяч рублей, т.е. более 1 тыс. рублей на каждого члена профсоюза. Этот факт явился одной из причин, по которой СПБ обратился с письменным представлением к руководству фирмы. Свободный профсоюз также обратил внимание руководства предприятия на систематические задержки с выплатой зарплаты и отпускных и нарушения безопасности труда на фирме.

На это представление наниматель ответил лишь через месяц, хотя по закону ответ должен быть дан в течение 10 дней. Ответ лишь содержал перечень принимаемых мер по улучшению условий безопасности труда и ничего не сообщал о решении других поставленных вопросов. В связи с этим, Совет СПБ направил повторное представление с теми же требованиями. Снова нарушив сроки, администрация дала ответ, который содержал лишь общие фразы о временных трудностях и о том, что все надежды на соблюдение сроков выплат заработной платы наниматель связывае с открытием расчетно-кассового центра.

Создается впечатление, что администрация фирмы не может найти пути выхода из кризиса, в котором находится фирма. С другой стороны вполне вероятно, что руководство пытается сделать все возможное, чтобы «вытянуть» предприятие, однако при существующей экономической политике государства в Беларуси администрация бессильна что-либо сделать.

*К.Димов.*

**Фирма «ЛЁС». Краткая историческая справка.**

Основана в 1873г. С 1873 по 1941 выпускает гвозди всевозможных типов, проволоку, чугунное и цветное литье, сельхозинвентарь, подковы, цепи, фурнитуру и др.

С 1946 по 1953 впервые в Беларуси основано серийное производство бытовых швейных машин, которое затем передано на «Легмаш».

С 1953 по сегодняшний день: производство средств связи: радиостанций различных типов, радиоприёмников, строительной фурнитуры и т.п.

*К. Димов*

D/A **Адукацыя**

# Бывай, нацыянальная школа?

Яшчэ некалькі гадоў таму за выключэннем адной Бабініцкай сярэдняй школы ўсе астатнія школы Аршанскага раёна былі (ва ўсялякім разе афіцыйна) беларускімі. Новы навучальны год з 40 раённых школ насёння 16 ужо сустракаюць афіцыйна з расійскай мовай навучання. У некаторых выпадках гарадскія настаўнікі, якія вымушаны працаваць на раёне, патрабуюць пераводу навучальнага працэсу на расійскую мову, як гэта мела месца некалькі гадоў таму ў Лісунах, у іншых жа гэта ініцыятыва "зверху". Вось толькі высветліць – з якога "верху", ці самага высокага "верху", ці не надта – так і не ўдалося. Працэс дэнацыяналізацыі Беларусі, запачаткаваны ганебным рэферэндумам 1995-га, набірае імклівую хаду – вунь ужо і старшынь аблвыканкамаў цяпер называюць на суседскі манер "губернатарамі"

*Юрка Аршанскі*

D/A **Нарэшце**

## Дзерваеда ўзялі ў абарот

Дырэктар у нядаўнім мінулым саўгаса, а цяпер ЗАТ "Днепр" Аляксандр Дзерваед даўно ўжо вызначаўся нават сярод праваахоўных органаў сваім ігнараваннем законаў, за што нават пабыў паўсутак пад арыштам з фармулёўкай "за злосную непавагу да суда". Якраз у жніўні на свінагадоўчы комплекс "Дняпра" прыязджаў нават міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіл Русы, бо комплекс з амаль не працуючымі ачышчальнымі збудаваннямі даўно і трывала забруджвае Дняпро і ніжняе цячэнне Крапівенкі. Але прывесці Дзерваеда ў свядомасць не магла нават абласная інспекцыя па экалогіі, таму прыехаў сам міністр, які ў суправаджэнні старшыні райвыканкама Уладзіміра Адашкевіча інспектаваў гэты непрыступны комплекс.

Міністр уласнай рукой даў дырэктару прадпісанне зрабіць абвалоўку комплекса і вывезці непамерныя запасы гною, а з Адашкевіча ўзяў абяцанне ў самы бліжэйшы час заняцца рэканструкцыяй ачышчальных збудаванняў крапівенскага комплекса. Хаця няма ніякай гарантыі, што і цяпер Дзерваед усё сказанае і напісанае пакіне па-за ўвагай, як гэта ўжо не раз было. І вось надоечы нахабнасць Дзерваеда падвяла-такі яго пад адміністрацыйнае пакаранне. Выявіўшы ў падначаленай яму гаспадарцы шэраг грубых парушэнняў працоўнага заканадаўства, Аршанская райпракуратура накіравала Аляксандру Дзерваеду прадпісанне, якое ён у звычайнай сваёй манеры праігнараваў. За парушэнне артыкула 36 Закона "Аб пракуратуры" ён зноў патрапіў пад танкі закона, які, аказваецца, яшчэ ёсць. Так што майце на ўвазе, шаноўныя кіраўнікі, закон пісаны і для вас таксама.

*Карусь Дасціпны*

D/A **Казус месяца**

## Не для сярэдніх розумаў

У нашым настальгічным запаведніку СССР усё жыццё краіны практычна падзелена на чатыры перыяды – пасяўную, жніво, дажынкі і перыяд стойлавага ўтрымання жывёлы. А каб настальгія была поўнай, вяртаюцца ўжо парадкам спарахнелыя атрыбуты самага развітога ў свеце сацыялізму – дошкі гонару, перадавікі, сацспаборніцтва Дарэчы, пра апошняе. Пераходныя чырвоныя сцягі й ганаровыя дыпломы з граматамі цяпер ужо мала каго цешаць. Таму для перадавікоў прадугледжана і самае што ні ёсць матэрыяльнае заахвочванне. Вось і сёлета, рыхтуючыся да маючых адбыцца ў Шклове супердажынак, публікуюцца прызы ды ўмовы іх атрымання самымі-самымі героямі бітвы за ўраджай. Надоечы і "Аршанская газета" (N 93) без подпісу апублікавала такую інфармацыю. Але далібог, часам самы глыбокі й дасведчаны філолаг не разбярэцца ў тым, што напісана і за што герою-камбайнеру абломіцца легкавушка. Вось паспрабуйце самі ў гэтым разабрацца: "Например, старшего комбайнера, впервые занявшего призовое место за последние четыре года, включая и текущий, ожидают Почетный диплом и автомобиль". І гэта пры тым, што таму, хто "за последние четыре года второй раз займет 1-е место" – матацыкл і 500 тысяч. Як той казаў, без бутэлькі не разбярэшся.

*Карусь Дасціпны*

D/A **Нонсэнс**

## Семінарыць не толькі апазіцыя

Палітычна прасунутыя дзяржаўныя СМІ часта папракаюць апазіцыйныя структуры бясконцымі семінарамі на забугорныя грошы. Аднак і "вертыкальныя" ведамствы апошнім часам сталі ахвочымі да розных семінараў. Толькі за апошні месяц на Аршаншчыне прайшлі 2 буйныя семінары. 3 жніўня ў эксперыментальнай базе "Вусце" прайшоў абласны семінар для інспектараў па якасці нарыхтовак сельгаспрадукцыі з выездам у іншыя гаспадаркі і на камбінат хлебапрадуктаў.

А напярэдадні на базе "Аршанскай газеты" быў праведзены дужа прадстаўнічы рэгіянальны семінар рэдактараў раённых, гарадскіх і аб'яднаных газет. Праводзіў семінар начальнік упраўлення па друку аблвыканкама Іван Сухамера. У прыемнай, нязмушанай абстаноўцы гаварылі амаль пра ўсё – ад сацыяльна-эканамічнага развіцця Оршы і ролі друку ў гэтым працэсе, і аж да выканання ўказу Лукашэнкі "Аб рэагаванні пасадавых асоб на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі". Семінар прайшоў на высокім ідэйна-палітычным узроўні, у цёплай, сяброўскай атмасферы.

26 жніўня яшчэ адзін, на гэты раз семінар дзяржаўнага ўзроўню, якім кіраваў аж сам віцэ-прэм'ер Папоў пры ўдзеле яго цёзкі, міністра сельскай гаспадаркі. Тэма семінару – праблемы льнаводства. На семінары віцэ-прэм'ерам ва ўльтыматыўным парадку была пастаўлена задача – выцерабіць лён ва ўсіх гаспадарках у 10-дзённы тэрмін, і скончыць з ім да 5 верасня. А пасля яшчэ і абмалаціць уласнымі сіламі. Цікава, у саўгасе "Гарадзец" таксама ў час дырэктарства там ППРБ спраўляліся з ільном у такія тэрміны і такімі метадамі? У час разбору гатоўнасці да такіх тэрмінаў ільнаводаў з Магілёўшчыны і мадэлявання сітуацыі па канкрэтных дадзеных і лічбах тут жа высветлілася, што церабіць яны будуць увесь верасень. У лепшым выпадку. На Аршаншчыне льноклін складае 3500 га, выцераблена на трэцюю дэкаду жніўня менш 8-й часткі патрэбнага. Так што семінарыць куды прасцей.

*Алесь Аршычны*

## Як прыехаў, так паехаў

8 жніўня Аршанскі раён наведаў прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын.

Старшыня ўраду ў суправаджэнні старшыні райвыканкама Уладзіміра Адашкевіча наведаў далёка не самыя горшыя гаспадаркі Аршаншчыны – эксперыментальную базу "Межава" і калгас "Камінтэрн". Прэм'ер-міністр цікавіўся ходам жніва і аплатай працы камбайнераў і кіроўцаў грузавікоў. Некаторыя аналітыкі за ўсім гэтым бачаць жаданне паказаць Прэзідэнту як старшыня ўрада заклапочаны якасным жнівом і выкананнем апошніх дырэктыў ППРБ наконт разліку з калгаснікамі за працу. Апошнім часам візітаў розных высокіх дзяржчыноўнікаў да нас было нямала, так што да іх ужо папрывыклі. Вось і цяпер у прынцыпе нічога канкрэтнага не было сказана ні добрага, ні дрэннага. З чым і паехаў.

*Карусь Дасціпны*

D/A **Улада**

## Выбіраць немэтазгодна?

24 ліпеня Аршанская раённая камісія па выбарах дэпутатаў Аршанскага райсавета (не блытаць з Палатай прадстаўнікоў) прыняла гістарычнае рашэнне: лічыць немэтазгодным правядзенне паўторных выбараў у раённы Савет дэпутатаў па чытырох выбарчых акругах – Бабініцкай, Пугляеўскай, Клюкаўскай і Балбасаўскай.

Крызіс заканадаўчае ўлады, які пачаўся з прыходам да ўлады ППРБ, закрануў усю яе структуру, да самых нізавых звенняў. Цяпер, калі адным дэкрэтам ці ўказам з незвычайнай лёгкасцю перакрэсліваецца любы закон, практычна ўсе ўладныя функцыі сканцэнтраваны ў руках "вертыкалі". Таму і выбары ў мясцовую ўладу практычна нідзе не сустракаюць былога энтузіязму. Год таму прайшлі выбары ў раённы Савет дэпутатаў, у згаданых чатырох выбарчых акругах яны не адбыліся – былі прызнаныя несапраўднымі ці не набралі неабходнае колькасці галасоў. Спробы правесці паўторныя выбары не далі нічога, і вось заканамерны вынік – лічыць немэтазгодным Лагічна напрошваецца пытанне: ці варта тады лічыць мэтазгодным хадзіць на выбары ў кішэнную Палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка?

**Юрка Аршанскі**

*По просьбах чытачоў мы падаем кантактныя тэлефоны дэмакратычных арганізацый Аршаншчыны.*

Цэнтр падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Крывіч". 4-40-13. Кантактная асоба – Алесь Шутаў.
Фонд Л.Сапегі. 5-26-93. Кантактная асоба – Юры Нагорны.
Рэгіянальная арганізацыя Свабоднага прафсаюзу. 2-00-85. Кантактная асоба - Васіль Леўчанкаў.
Беларускі хельсінскі камітэт. 9-57-47. Кантактная асоба – Васіль Бераснеў.
Таварыства беларускай мовы. 5-26-93. Кантактная асоба – Юрый Нагорны.
Беларуская жаночая ліга. 5-46-96. Кантактная асоба – Святлана Кіслякова.
Моладзевая арганізацыя "ЗВЯЗ" 4-40-13. Кантактная асоба – Зміцер Варапаеў
Задзіночаньне беларускіх студэнтаў 4-40-13. Кантактная асоба – Ілля Заранок
Малады Фронт 4-40-13. Кантактная асоба – Ігар Казмерчак.
БНФ "Адраджэньне". 4-40-13. Кантактная асоба – Леанід Лявонцьеў
КХП БНФ. 1-25-41. Кантактная асоба – Юрый Санько
Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная грамада" (Орша) 4-38-52. Кантактная асоба – Аляксандр Сталяроў.
Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная грамада" (Барань) 5-44-70. Кантактная асоба – Віктар Міхасёў.
Аб'яднаная грамадзянская партыя. 2-26-49. Кантактная асоба – Станіслаў Храпавіцкі.

D/A **Адстаўка**

## Яшчэ адзін старшыня калгаса

Так, яшчэ адзін старшыня калгаса, на гэты раз старшыня калгаса "Дубраўка" Міхаіл Чобат падаў у адстаўку. І зноў жа, як гэта стала традыцыяй, па ўласнаму жаданню. Райвыканкам яе прыняў.

*Юрка Аршанскі*

D/A **Статыстыка**

## Лічбы, якія не радуюць

*Захворваемасць*

За 6 месяцаў па Аршаншчыне зарэгістравана 70 выпадкаў дызентэрыі і 13 сальманелёзу. Сярод крыніц захворванняў называюцца малочныя прадукты (36%) і салаты хатняга гатунку (20%).

*Дэмаграфія*

На пачатак ліпеня ў Аршанскім раёне пражывае 44,9 тысячы жыхароў. За 6 месяцаў нарадзілася 165, а памерла 518 чалавек. Шлюбаў зарэгістравана 69 (летась за такі ж час – 92), разводаў – 24. З такімі тэмпамі скора не будзе каму разводзіцца – толькі па Межаўскаму сельсавету на 400 рэальна працуючых жыхароў прыходзіцца 2,5 тысячы пенсіянераў.

*Вытворчасць*

За 6 месяцаў на 5 прадпрыемствах Аршанскага раёна, што складаюць 45,5% прамысловасці раёна, аб'ём вытворчасці знізіўся ад 10 да 30%.



*Зарплата*

Паводле афіцыйнае статыстыкі ў чэрвені сярэдні заробак па Оршы складаў 52 т. р., па раёне – 43,8 т. р., прычым па калгасах гэты паказчык нашмат ніжэй – 36 т. р.

Самы высокі сярэдні заробак у чэрвені па-ранейшаму быў у аршанскіх банкаўскіх работнікаў – 90,3 т. р., на другім месцы нашы слаўныя чыноўнікі "вертыкалі" – 70,9 т. р., прычым па раёне гэты паказчык істотна адрозніваецца ад гарадскога ("толькі" 52,6 т. р.) Работнікі чыгуначнага транспарту на ганаровым трэцім месцы – 67,9 т. р.

*Бяспека руху*

За 7 месяцаў сёлета на Аршаншчыне зарэгістравана 43 дарожна-транспартныя здарэнні. Загінула 14 чалавек, паранена 44 чалавекі. Асноўныя прычыны ДТЗ наступныя: перавышэнне хуткасці кіроўцамі аўтатранспарту (17 выпадкаў), кіраванне транспартам у нецвярозым стане (7 выпадкаў), віна пешаходаў (7 выпадкаў). Калі ў такім плане пойдзе і далей, то на вуліцах і дарогах можна ставіць новы знак – сцеражыся аўтамабіля!

Карусь Дасціпны

